


**Выпуск № 4 (392)**

**Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

# Колькі купляць угнаенняў?

**Кожны год мы вядзем гаворку пра ўгнаенні, якія набываем у крамах (мінеральныя) і якія выцягваем са сваіх хлеўчукоў (арганічныя). Але пісьмы сведчаць, што не ўсё так добра, як хацелася б. Дарагоўля «мінералкі» (кілаграм суперфасфату каштуе больш за 10.000 руб.) ставіць многія праблемы. Ад нечага дачнікі і сяляне адмаўляюцца, уносячы тое, што ёсць пад рукою! А гэта адбіваецца і на ўраджаі, і на яго якасці.**

Прыгадаем, што ўсе мінеральныя ўгнаенні (выключэнне складаюць хіба што фасфарытная мука, вапна, некаторыя іншыя) утрымліваюць элементы, якія амаль поўнасцю раствараюцца ў вадзе. Асадак — гэта ўжо іншыя састаўляючыя, так званыя напаўняльнікі. Таму падмочваць, трымаць на святле іх нельга. Абавязкова будуць страты. Да таго ж грудкі, з якіх будзе складацца «мінералка», дрэнна размяркоўваюцца па паверхні глебы. Будзе дзе густа, а дзе пуста. Ля грудак карані «падпальваюцца», а дзе іх няма, то адчуваюць патрэбу ў сілкаванні.

Калі дапусцілі такую прамашку, угнаенне зляжалася, падмокла, прымайце тэрміновыя меры для паляпшэння справы. Дапаможа сушка на сонцы (паветры) з дабаўленнем да 10 працэнтаў ад агульнай вагі мелу ці 5 працэнтаў попелу. Драбіць задоўга да ўнясення на градкі нельга, лепш гэта зрабіць, калі будзем перакопваць (пераворваць) глебу.

Каб неяк павысіць эфектыўнасць работы, патрэбную колькасць мінеральных угнаенняў змешваюць, і ў гатовым выглядзе рассяваюць па плошчы. Адну палову ўздоўж участка, другую — упоперак. Так угнаенні роўна кладуцца ў глебу.

Ці ўсе ўгнаенні можна змешваць? Не, не ўсе. Прыгадаем, што нельга суперфасфат «жаніць» з салетрай. Атрымаецца сырая маса, якая да ўсяго ліпне. А вось салетра ў гранулах і такі ж суперфасфат сумяшчальныя. Але толькі перад самым унясеннем.

Нельга змешваць сернакіслы амоній з вапнай, попелам, гноем; вапну з гноем. За некалькі дзён даўнясення можна змяшаць суперфасфат з калійнай соллю і гноем; калійную соль з сернакіслым амоніем і вапнай.

Карысна прытрымлівацца такога правіла: глiністыя (а ўвогуле ўсе «цяжкія» глебы) запраўляюць радзей, чым пясчаныя («лёгкія»). Апошнія ўгнойваюць часцей, але меншымі дозамі. Усё робіцца з улікам той акалічнасці, што гліна мацней «трымае» элементы. Пясок жа, бы тое рэшата, усё прапускае праз сябе. Дажджы вельмі шмат вымываюць азоту ў ніжэйшыя слаі глебы. Людзі нават «знаходзяць» яго ў калодзежнай вадзе ў выглядзе так званых нітратаў.

На кіслых супесках абавязкова ўносіцца магній, якога шмат у даламітавай муцэ. На такіх глебах дзеянне суперфасфату і фасфарытнай мукі амаль аднолькавае. А вось на гліністых фасфарытная мука ўступае.

Арганічныя ўгнаенні на ўсіх глебах трэба заворваць як мага раней. На паверхні ды яшчэ раскіданымі яны трацяць пажыўныя якасці (асабліва азот).

Якая глыбіня загортвання? На цяжкіх — да 14—16 см, на лёгкіх — да 24 см. Чаму? А таму, што менавіта на гэтым узроўні залягання найлепш працуюць розныя мікраарганізмы, якія пераводзяць усе элементы сілкавання ў прыдатную для раслін форму.

Дададзім яшчэ, што ўгнаенні даюць большую аддачу на акультураных, структурных участках. Новыя землі такімі ўласцівасцямі не валодаюць. І нават ад вялікай колькасці гною ў першы год поўнай аддачы чакаць не трэба.

Яшчэ адно правіла: калі глебы не забяспечаныя ў патрэбнай колькасці азотам, дзеянне фосфару і калію акажацца мізэрным. Таму глебы трэба ўгнойваць (паўтараем гэта пастаянна!) «тройцай»: азотам, фосфарам і каліем. Пры неабходнасці (участак «кіслы») — і магніем.

Натуральнае пытанне: а колькі неабходна гэтых мінеральных і арганічных угнаенняў на агарод, скажам, у адну сотку? А вось колькі. За аснову возьмем градку памерам 10 кв. метраў (2х5 метраў). На кожным пакеце ўгнаенняў указана колькасць так званага дзеючага рэчыва (працэнты). Пад караняплоды (моркву, буракі, рэдзьку, радыску і г. д.) пажадана мець з азотных аміячную салетру, далей суперфасфат і хлорысты калій. У салетры таго дзеючага рэчыва — 34 працэнты, гэта значыць, што ў кілаграме яго будзе ўсяго 340 грамаў (бачыце як мала). У двайным суперфасфаце вокісу азоту ўсяго недзе 34—46, а ў звычайным (ён, безумоўна, таннейшы) усяго 20 ці крыху больш працэнтаў. Дзеючага калію ў хларкаліі недзе 62 працэнты.

Усе макраэлементы павінны быць збалансаваныя, гэта значыць, што на адзінку азоту павінна прыпадаць такая ж важкая адзінка яго «сяброў» — фосфару і калію. (Яшчэ трэба дадаць, што ўносіць «мінералку» па сістэме 1+1+1 ці 1:1:1 не па вазе, а па дзеючаму рэчыву!).

На 10 кв. метраў унеслі па 140 г дзеючага рэчыва азоту, ці 350 г фізічнага (ад агульнай масы). Каб усё ўраўнаважыць, трэба дадаць 140 г (можна і крыху болей) вокісу фосфару і столькі ж вокісу калію. У нас просты 20-працэнтны суперфасфат — у кілаграме яго ўсяго 200 грамаў. Значыць, трэба ўзяць «фізічнага» 600 г. Калію зноў трэба 140—180 г — гэта значыць «фізічнага» недзе 350 грамаў.

Такім чынам пастcount пастуупаем і з астатняй плошчай агарода. Значыць, на адну сотку трэба купіць недзе 3-4 кг салетры, аж 9 кілаграмаў простага суперфасфату і недзе 3,5 кг хлоркалію. Усё ў фізічнай вазе. Калі сустрэнеце такое сцвярджэнне, што на 1 кв метр трэба ўнесці па 40 г азотных, фосфарных і калійных угнаенняў, не верце. Такая фармулёўка будзе ўмоўна правільнай толькі для мачавіны + двайнога суперфасфату і сернакіслага калію, бо колькасць дзеючага рэчыва ў іх прыкладна аднолькавая.

У наступным выпуску мы раскажам пра звычайны гной з сялянскіх хлеўчукоў, чым яго трэба «паляпшаць».

# Памідор і перчык абжываюць падаконнік

**У мінулым выпуску рубрыкі расказвалася, як выгадаваць агурочак у кватэры. Сёння працяг гэтай размовы. Слова просяць памідоры і перцы. Умовы тыя ж: паўднёвыя вокны ці набліжанага да яго накірунку. Вільготнасць паветра блізкая да вонкавай (адчыняць вокны, балконныя дзверы), развешваць мокрыя анучкі.**

Заўважым яшчэ, што памідоры і агуркі любяць адзіноцтва. Расліны-суседзі ім замінаюць. Значыць, агурочак расце, скажам, на кухні (там больш вільготнае паветра), а памідорчык — у зале.

Зноў рыхтуем скрынкі з тонкіх дошак, высцілаем знутры цэлафанам. На дно кладзём старыя капейкі, вуголле. Зямля аднолькавая, тыя ж угнаенні. Вось толькі суперфасфату кладзём на вядро ў двацтры разы больш — паўтары шклянкі. Яшчэ памідор любіць медзь, бор і малібдэн. Іх і даём, разводзячы борную кіслату і медны купарвас у цёплай вадзе (па 1 г на літр вады). Апрацоўваем глебу і высаджваем расаду. На скрынку 30х60 см не больш двух-трох асобін.

Сарты памідораў толькі раннія. Вядома, лепшыя з іх тыя, што прызначаны для цяпліц. Але можна і нашы вядомыя — «перамогу», «Талаліхін», «белы наліў», «валгаградскі ранні», нават «дэ Барас», «кентаўр», «мілэдзі» і г. д.

Асвятленне яшчэ больш інтэнсіўнае, чым для агуркоў. У лютым падсветкі абавязковыя. Выключыць начныя замаразкі. Паліваць вадою тэмпературай +25 — +30 градусаў. Падкормкі — раз у 10 дзён. На 10 літраў вады браць 15 г мачавіны, 25 г двайнога суперфасфату і 15 г сернакіслага калію. Бліжэй да цвіцення і завязвання пладоў падкормкі зрабіць больш інтэнсіўнымі, падвоіўшы колькасць



макраэлементаў.

Калі цёпла (красавік-май), скрынкі з раслінамі выносіць на балкон. Але рабіць гэта паступова, бо прамыя промні сонца загубяць лісцікі. Спачатку трымаць на свежым паветры 20 хвілін, пасля — 25 і г. д. У цёплыя ночы (+15°) пакідаць расліны на балконе.

Памідоры і перцы, якія растуць асобна, можна перасаджваць на дачах пад плёнку. Ураджай будзе больш хуткім.

Як фарміраваць агуркі, памідоры і перцы — у наступных выпусках.

# А я раблю так...

РАСКАЗВАЕ САДАВОД-АМАТАР З Г. РЭЧЫЦА **Генадзь БЕЛАВУСАЎ.**

Звычайна вясною ўсе работы ідуць чарадою. Дачніку дыхнуць некалі. Шмат чаго робіцца ў спешцы. А гэта нязменна вядзе да браку.

Узяць тыя ж прышчэпкі. Да іх звычайна прыступаюць у красавіку. Але сонца і цяплынь так прыгрэюць зямлю, што дрэвы імгненна ажываюць. Чаранкі прыжываюцца дрэнна.

Некалькі гадоў запар прышчэпкі раблю зімою. Недзе ў лютым, як толькі вызначаюцца цёплыя дні, бяру свае інструменты і іду ў сад. Чаранкі для прышчэ-



пак бяру з дрэва ці са снегу (калі былі нарыхтаваны раней). Спакваля прыступаю да справы. Дбайна ачышчаю сучок, дэзінфіцырую, адпільваю, зачышчаю, калю і ўстаўляю «навічка». Абвязку раблю звычайнай плёнкай з поліэтылену. Яна не цісне на прышчэп, а раздаецца ўшыркі. А гэта садзейнічае добраму развіццю дубчыка.

Спосаб у асноўным адзін — у рашчэп. Але добра растуць чаранкі, якія прышчапляю палепшанай капуліроўкай. Самі чаранкі даўжынёю да 20 см з некалькімі (да 10!) пупышкамі. За адзін год вырастаюць да метра. Радуе тое, што браку няма. Падвой і прывой ладзяць паміж сабою. Нават рэзкія перапады тэмператур ім не перашкода.

# Высылаю

**насенне памідораў**: ультраранія — «альфа», «японскі карлік», «навіна Канады» (40—80 г), «Кацюша» (да 100 г), «дубок» (да 200 г), раннія — «чырвоная шапачка», «крайова», «полымя Арктыкі» (усе нізкія, да 100 г, прыдатныя і як пакаёвыя), «ружа», «віліна» (да 120 г, сярэдняўстойлівыя да фітафтарозу), «міс Амерыка» (да 150 г), «лікурыч» (да 200 г), сярэдняспелыя — «дачныя», «маршал Жукаў», «Талаш» (усе нізкія, чырвоныя, да 200 г), «разеці» (80—120 г), «хурма» (да 300 г) — абодва жоўтыя, «цешчына радасць» (да 400 г), ружовыя, цёмнаплодныя — «чорны аксаміт» (да 400 г), «чорны прынц» (да 250 г), «мулат» (60—80 г), вельмі прыгожыя, «чорная сліва» (як сліва). Для захоўвання і закаткі — «алікантэ», «прызёр», «Рычманд рэд стар» (60—80 г), «жыраф», «лонкіпер» (да 200 г), «тытан», «прынц Баргезе» (20—30 г, да 500 шт. на кусце), марозаўстойлівыя (пры загартоўцы холадам пераносяць веснавыя замаразкі, без загартоўкі — як звычайныя памідоры, але з-за холадаўстойлівасці больш ураджайныя, усе нізкія, раннія — І-2, І-3, Г-18/52, «сібірак», «аранбуржац» (усе да 200 г), «карлік Сараева», «стойкі», «кемеравец» (да 150 г), высокія, дробныя, устойлівыя да фітафтарозу «дэ Барао» (чырвоныя, жоўтыя, залацістыя), цяплічныя — «унікальныя» (60—70 г), «палачанка» (80—100 г), «Ілона» (да 100 г з бульбяным бацвіннем), «Сакрат» (да 150 г), «агароднік» (да 200 г), усе з ураджаем да 20 кг на 1 кв. м.

**Насенне каўбуза** — гібрыд кавуна і гарбуза, ядуць сырыя і гатуюць розныя стравы (да 40 кг). Гарбуз фіялісцевы (3—5 кг) — да 20 шт. на кусце. Мякаць белая, салодкая, насенне з чорнай скуркай, смачнае. Да выспявання ядуць як дыню, пасля — гатуюць розныя сокі. Гарбуз драбнаплодны (1—3 кг) — да 20 шт. на кусце, вельмі смачныя семкі. Гарбуз-грушка — як груша, дэкаратыўны. Кавуны — свае, мясцовыя (2—5 кг), дыня «калгасніца» (0,5 — 1,5 кг). Выспяваюць яны з пачатку верасня, добра даспельваюцца ў доме, вельмі смачныя.

**Агуркі засолачныя**, устойлівыя да хвароб — «фермер», «фенікс» — ураджаю мінулых гадоў, «верасень» — ураджаю 1997 г.

**Перац салодкі** «каліфарнійскі цуд».

*Перадаплата:* памідоры, агуркі і перац — 7 тыс. руб. за пакет 25—30 шт., каўбуз, гарбузы, кавуны, дыня — 10 тыс. руб. за 10—15 шт. У графе пераводу «Для пісьмовага паведамлення» ўкажыце сарты і колькасць пакетаў. Пісьма не трэба.

*Накладной платай:* памідоры, агуркі — 10 тыс. руб., каўбузы і іншыя — 15 тыс. руб. Ад вас — пісьмо-заказ і канверт са зваротным адрасам без марак. Грошы ўплаціце на пошце пры атрыманні насення. На кожныя 10 заказаных пакетаў 1-2 пакеты вышлю бясплатна на працягу 10 дзён.

*ПРАКОПЧЫК Віктар Паўлавіч, 213803, Магілёўская вобласць, г. Бабруйск, да запатрабавання.*

# Зазірнуўшы ў крамы, зазірнём і ў душы?

**Прадуктовы магазін ля Акадэміі навук, вядомы ў народзе як «дваццаты», працуе кругласутачна. Наўрад ці можна казаць, што гэта магазін для багатых. Амаль усе прадукты айчыннай вытворчасці. Акрамя мяса і каўбасы, сістэма продажу — самаабслугоўванне.**

ХТО ШТО КУПЛЯЕ І ПА КОЛЬКІ

Самы масавы «шчодры» пакупнік наведваецца ў магазін у пачатку месяца, пасля выдачы зарплаты. Кемлівыя гаспадыні закупляюць крупы, мяса, масла, кансервы і астатнія паўфабрыкаты ў запас на месяц. Пакупнік, у якога кожны рубель на ўліку, доўга прыглядаецца, прынюхваецца і бярэ толькі самае неабходнае. Цяжэй за ўсё развітваюцца са сваімі «кроўнымі» старыя людзі. Купляюць, здаецца, усё, але па маленькаму кавалачку. Добрая каўбаса (па 150—200 тыс. рублёў за кг) ім ужо не па кішэні, варанай па 80—90 тысяч рублёў таксама не наясіся. Вось і купляюць нашы дзядулі і бабулі «крывянку» па 50 тыс. рублёў і «ліверку» па 35 тыс. рублёў. Пенсіянерка Кацярына Сяргееўна купляе ў гэтым магазіне кожны месяц па 1,5 кг ялавічыны па 64.400 рублёў за кг. Слаўная бабулька кажа, што гэтага мяса ёй з дзедам хопіць на супы і баршчы аж да чарговай пенсіі. У той жа час перад святамі яна абавязкова знойдзе ў «загашніку» паўмільёна, каб на стале было і што выпіць, і чым закусіць.

СТУДЭНТ ТО ГАЛАДАЕ, ТО ШЫКУЕ

Каля «дваццаткі» веерам раскінуліся інтэрнаты шматлікіх навучальных устаноў. У магазін студэнты заходзяць па аднаму, а часцей цэлымі групамі. Калі настаў дзень «палучкі», могуць купіць, каб пакаштаваць, амаль усё. Дзяўчынкі «налягаюць» тады на шакаладныя крэмы, ёгурты, кексы і тарты. Хлопцы з лёгкасцю купляюць імпартнае піва, якое потым могуць прыкусваць крыветкамі па 130 тыс. рублёў за 200 г. Але потым наступае «заўтра», і студэнт ідзе купляць пакецікі сухіх супоў і каш. Самая папулярная ежа ў маладых «ламаносавых» усё ж такі пельмені, якія каштуюць 24 тысячы рублёў за паўкіло. Заходзяць сюды і студэнты «а ля блакітная кроў». Такія калі і купляюць, то толькі самага-самага, напрыклад, апельсінавага соку па 62 тыс. рублёў за літр або крэкераў па 30 тыс. рублёў за 50 грамаў.

КРАДУЦЬ, НА ЖАЛЬ, КОЖНЫ ДЗЕНЬ

Сістэма самаабслугоўвання, прывабная для спажыўца, аддаецца моцным галаўным болем у прадаўцоў. Бываюць часы, калі вылоўліваюць аматараў сцягнуць чужое цэлымі «пачкамі». Крадуць ад маленькіх кавалачкаў сыру ці каўбаскі да бутэлек шампанскага і вялікіх каробак з цукеркамі. Крадуць амаль усе слаі насельніцтва. Зусім бедныя крадуць ад дрэннага жыцця, людзі сярэдняга дастатку крадуць ад хітрасці. Багатыя таксама крадуць. Чаму яны гэта робяць, здагадацца цяжка. Мусіць нешта з сумленнем не ў парадку.

КРУТЫЯ З «МЕРСАЎ» СТАРЫМ НЕ РОЎНЯ

У кругласутачнага нашага магазіна ёсць свой пакупнік, да якога персанал крамы «падыходзіць» з трапятаннем. Калі раптам прыхварэў пенсіянер, які жыве недалёка, ці пазваніў інвалід і папрасіў прынесці дамоў бутэльку малака і хлеб, супрацоўнікі магазіна ніколі не адмовяць такім людзям дапамагчы ў іх бядзе. У той жа час могуць пазваніць так званыя «новыя беларусы», якія закажуць па спісу прадуктаў хоць на 5 мільёнаў. Прадукты падбяруць і добра ўпакуюць, а калі кліент прыедзе за таварам, нават данясуць да машыны. Да такіх пакупнікоў таксама адносіны асаблівыя, але ў гэтым выпадку ўжо за грошы.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ШАХМАТЫ

***Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА***

КОНКУРС РАШЭННЯЎ

**Заданне № 3**

**Белыя:** Крс7, Фа6, Лс4, Cf5, Kd2, Kg4 (6). **Чорныя:** Kpd5, Лf7, Ca2, Cc1, Kb3, Ke7; nn: b6, d7 (8). **Мат за 2 хады.**




**Заданне № 4**

**Белыя:** Kpf8, Фf2, Лd5, Kf6, Kg3 (5). **Чорныя:** Kpe6, Ce5, Kh6; nn: b5, d6, g4, g5 (7). **Мат за 3 хады.**




ПАРТЫІ БЕЛАРУСКІХ ГРОСМАЙСТРАЎ

Пазнаёмцеся з дзвюма партыямі з удзелам беларускіх гросмайстраў Барыса Гельфанда і Віктара Купрэйчыка, якія яны правялі ў розных спаборніцтвах.

**Б. Гельфанд — В. Звягінцаў**

*Абарона Німцовіча*

1. d4 Kf6 2. c4 e6 3. Kc3 Cb4 4. Фс2 d5 5. cd Ф:d5 6. Kf3 Фf5 7. Фd1!? c5 8. e3 cd 9. ed 6—0 10. Cd3 Фh5?! 11. 0—0 Kbd7 12. Ke2!? Cd6 13. Cf4! C:f4 14. K:f4 Фh6 15. g3! b6 16. Лс1 Cb7 17. Лс7 C:f3?! 18. Ф:f3 e5 19. Kd5 ed 20. K:f6+ K:f6 21. Ле1 Лае8? 22. Л:е8 Л:е8 23. Л:а7 Фс1+ 24. Kpg2 Ф:b2 25. Cc4 Kph8 26. Ла8! Фb4 27. Л:е8+ K:e8 28. Фа8! і чорныя здаліся.

**В. Купрэйчык — Ю. Нікалаеўскі**

*Сіцыліянская абарона*

1. e4 c5 2. Kf3 e6 3. d4 cd 4. K:d4 a6 5. Kc3 Фс7 6. Ce2 b6? 7. f4 Cb7 8. 0—0 Kf6 9. Cf3 d6 10. Фе1 Kd7 11. Kph1 e5 12. Kf5 g6 13. Ke3 ef 14. e5! de 15. Kd5 K:d5 16. K:d5 Фd8 17. C:f4! Cg7 18. Cg5! Фс8 19. Фb4 Cf8 20. Фb3 b5 21. Kb6! f6 22. K:c8 і чорныя здаліся.

**Выпускнікі 1978 г. Пухавіцкай СШ, запрашаем ВАС на вечар сустрэчы з нагоды 20-годдзя заканчэння школы, які адбудзецца 7 лютага.**

БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**4 лютага.**

190 гадоў з дня нараджэння (1808—1884) В. І. Дуніна-Марцінкевіча, паэта, драматурга, тэатральнага дзеяча.

120 гадоў з дня нараджэння (1878—1942) Д. Д. Бохана, пісьменніка, перакладчыка, публіцыста, крытыка.

55 гадоў з дня нараджэння (1943) У. С. Улашчыка, доктара медыцынскіх навук, прафесара, члена-карэспандэнта АМН Беларусі, вучонага ў галіне фізіятэрапіі і медыцынскай тэхнікі, галоўнага рэдактара часопіса «Здравоохранение».

* * *

Меней гавары — болей рабі.

*Народная прымаўка.*

У каго сумленне чыстае,
той спіць спакойна.

*Народная прымаўка.*

# ГРАМАДСКІ ПРАЕКТ

## УШАНАВАННЯ САПРАЎДНАЙ ПАЭЗІІ

**Як ужо вядома, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб святкаванні 200-годдзя з дня нараджэння паэта Адама Міцкевіча» прадугледжваецца правядзенне шырокіх мерапрыемстваў у знак гэтай адметнай падзеі. Сярод іншых падзей мяркуецца і Міжнароднае свята паэзіі.**

Інтэлігенцыя, грамадскасць краіны актыўна адгукнулася на прапановы дастойна ўшанаваць імя, творчасць славутага земляка, вылучыўшы пры гэтым надзвычай прыцягальны праект. Летам 1998 года на беразе Свіцязі, цесна звязанай з імем Адама Міцкевіча, пройдзе вялікі тэатральна-паэтычны фестываль з удзелам многіх знакамітых дзеячаў мастацтва, літаратуры і самай шырокай публікі. Мяркуецца гэтае свята паэзіі правесці 6 чэрвеня, у дзень нараджэння Аляксандра Пушкіна — блізкага сябра Адама Міцкевіча. Такім чынам гісторыя руска-беларускіх літаратурных сувязяў дапоўніцца яшчэ адным яркім фактарам культурнага пабрацімства. Да фестывалю, у якім будуць удзельнічаць таксама Андрэй Вазнясенскі, іншыя вядомыя беларускія і рускія паэты, будуць выдадзены дзве паэтычныя кнігі: «Свіцязянка» Адама Міцкевіча на беларускай, рускай і польскай мовах, а таксама зборнік вершаў Андрэя Вазнясенскага па-руску і па-беларуску. Створана ініцыятыўная група па правядзенню фестывалю на чале з вядомым драматургам, старшынёй Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Аляксеем Дударавым.

*Ініцыятары звяртаюцца да грамадскасці, да бізнесменаў і прамыслоўцаў за фінансавай падтрымкай. Разліковы рахунак для грашовых пералічэнняў: № 3015224880014, філіял № 0111 у АТ «Пріорбанк», г. Мінск, код 228.*

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

36,6°

# Галаўны боль зубнога доктара Эдуарда МЕЛЬНІЧЭНКІ

Званне «Заслужаны дзеяч навукі» ў нас так проста не даюць. Гэта за мяжой ты можаш быць акадэмікам універсітэта ці якой іншай установы, пакуль уносіш грашовы ўклад. Праўда, існуе і там сістэма экзаменаў, тэстаў для атрымання рэгалій, але ў нас толькі гэтым не адкараскаешся. Эдуарду Міхайлавічу Мельнічэнку, прафесару, загадчыку кафедры дзіцячай стаматалогіі Мінскага медінстытута, за 25 гадоў работы ў МДМІ давялося напісаць 3 манаграфіі, надрукаваць звыш 200 артыкулаў, падрыхтаваць каля 20 кандыдатаў навук. У дадатак яшчэ рэалізаваць некалькі праектаў. Так што нядаўні ўказ прэзідэнта краіны аб прысваенні Эдуарду Міхайлавічу ганаровага звання аддаў належнае зробленаму.

Шукаць Эдуарда Міхайлавіча давялося доўга. Кожны дзень на працягу тыдня я ўпарта круціла дыск тэлефона, а на тым канцы проваду не здымалі трубку. Прызнаюся, падумала, што чалавек адзначае падзею — не кожны ж год такія званні даюць. Але, кіруючыся правілам журналістаў «не пускаюць у дзверы — лезь у акно», завітала да інтэрв'юера нязваным госцем.

Аказалася, у медінстытуце вырашылі, што несалідна, каб на галаву прафесара, ды яшчэ заслужанага дзеяча навукі Беларусі, сыпалася са столі тынкоўка. Пачалі ў кабінеце Эдуарда Міхайлавіча рамонт. Рэчы вынеслі ў суседні пакой, тэлефон, вядома ж, адключылі. Так што размаўляць давялося седзячы на краі канапы, заваленай кнігамі і сшыткамі. Зрэшты, Эдуард Міхайлавіч прапанаваў мне і яшчэ адно месца — стаматалагічнае крэсла.

— Дарэмна адмовіліся: гэта амерыканская ўстаноўка, — жартуе заслужаны прафесар, — тут пацыенту прыемна сядзець, а дакладней ляжаць. Ва ўсім свеце зубы лечаць хвораму, які ляжыць. У нашай паліклініцы сучасных апаратаў больш за 70, а два кабінеты, эксперыментальна-дэманстрацыйныя, як мы іх называем, знаходзяцца на кафедры дзіцячай стаматалогіі і яны цалкам абсталяваны такой апаратурай: адзін амерыканскай, другі — чэшскай. У гэтых кабінетах практыкуюцца лепшыя студэнты, дэманструюць сваё майстэрства замежным калегам, дзякуючы якім, уласна, гэтае абсталяванне мы і маем. За свае сродкі сучасныя ўстаноўкі інстытут набыць не можа: адна каштуе звыш 10 тысяч долараў. Спонсары з Канады дапамаглі.

Вось такая гісторыя з'яўлення замежнага абсталявання. «Кветкам жыцця» пломбы ставяцца з сучасных якасных матэрыялаў, якія таксама дасылаюць спонсары.

— Галоўнае адрозненне стаматалогіі замежнай і нашай, — расказвае Эдуард Міхайлавіч, — заключаецца ў навучальным працэсе. Замежны спецыяліст — дантыст. Ён не займаецца ніякімі праблемамі пацыента, акрамя яго зубоў. Нашы спецыялісты атрымліваюць універсітэцкія веды. Яны могуць паставіць папярэдні дыягназ, які напрамую не звязаны з хваробай зубоў. З аднаго боку, такія веды дазваляюць меркаваць аб першапрычыне, дапусцім, хваробе печані, нырак. Але з урачоў шырокага профілю не заўсёды атрымліваюцца добрыя вузкія спецыялісты. Шэсць гадоў таму ў вучэбнай праграме стаматалагічнага факультэта на спецыялізацыю адводзілася ўсяго каля 30 працэнтаў агульнай колькасці гадзін. Сёння напалову больш.

Прынамсі, нашы спецыялісты павышаюць сваю кваліфікацыю ў Канадзе і Германіі. Адтуль таксама прыязджаюць замежныя калегі і дзеляцца здабыткамі сучаснай стаматалогіі.

На жаль, 80—90 працэнтаў беларускіх дзяцей ужо ў пяці-, шасцігадовым узросце становяцца кліентамі стаматолага. Бо акрамя таго, што ім не прывіта патрэбнасць чысціць зубы пасля яды (прынамсі, ужо з трох гадоў дзеці з задавальненнем робяць гэта самастойна, спачатку без пасты), дык яшчэ і нараджаюцца з дрэннымі зубамі. Будучыя мамы не ведаюць, што неабходна ў вялікай колькасці ўжываць тварог, садавіну, агародніну, дзе знаходзіцца неабходны будаўнічы матэрыял для закладкі зубоў дзіцяці — фтор.

У 1986 годзе ў рэспубліцы ажыццяўлялася праграма прафілактыкі карыесу ў дзяцей. Адзін са спосабаў папярэджання хваробы — ужыванне фтараванай вады. На жаль, доўга фтараваць ваду ў рэспубліцы не змаглі: гэта дарага, трубы хутка ржавеюць. Але аказалася, што дзеці, якія пастаянна атрымлівалі фтарыстыя прэпараты, мелі праз 6 гадоў на адзін здаровы зуб больш, чым аднагодкі, якім фторпрафілактыка не праводзілася.

Пазней спосаб папярэджання карыесу ўсё ж вынайшлі. Прынамсі, яго прапанаваў Эдуард Міхайлавіч. Каб зменшыць верагоднасць атрымання дзірак у зубах, трэба ўжываць фтараваную соль. Такую вырабляюць на Мазырскім камбінаце. Дарэчы, гэтая беларуская соль высакаякасная, што прызналі незалежныя эксперты на сусветным конкурсе. Галандцы, якія заўсёды ганарыліся сваёй соллю і трымалі першае месца гадамі, пагадзіцца з такім меркаваннем не маглі. Але другая экспертыза толькі пацвердзіла вынікі першай.

Неверагодна, але да гэтай пары не ўсе беларусы ведаюць, што зубы неабходна чысціць. Раней гэтаму не вучылі. Цяпер вучаць. Ужо ў дзіцячых садзіках. А год таму кампанія «Проктар энд Гэмбл» сумесна з Беларускай асацыяцыяй стаматолагаў, якую ўзначальвае прафесар Мельнічэнка, пачала эксперымент сярод другакласнікаў мінскіх школ. Усім вучням выдалі зубную шчотку, пасту і метадычную літаратуру з малюнкамі. У 1998 годзе такія падарункі атрымаюць ужо ўсе другакласнікі рэспублікі. Ёсць надзея, што беларусы неўзабаве змогуць таксама прэтэндаваць на лаўры белазубай нацыі.

Хаця, як сведчыць статыстыка, салодкага мы ўжываем куды больш, чым замежныя людзі. У Швецыі, Фінляндыі, напрыклад, не п'юць салодкія каву і чай. І не таму што эканомяць. Проста людзі хвалююцца за ўласнае здароўе. Яны, дарэчы, мяняюць сваю зубную шчотку раз у тры месяцы, як раяць спецыялісты. У прафесара Мельнічэнкі ёсць цэлая калекцыя дрэнных шчотак, якія ці ў студэнтаў адняў, ці ў пацыентаў, ці бываючы ў гасцях. Раю пабачыць.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**



**Калектыў Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне намесніку старшыні Чарняўскаму Ігару Мяфодзьевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю МАЦІ.**



## Старонка Паўла Глобы

**5 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР**

**Рэкамендацыі**. Пасля абеду не вырашайце ніякіх важных пытанняў, таму што гэта перыяд падманаў і памылак. Цвяроза абдумвайце кожны свой крок і сачыце за сваімі думкамі. Дзень, звязаны з ачышчэннем і дараваннем. Сёння нічога нельга планаваць, таму што ўсе планы могуць расстроіцца. Імкніцеся больш знаходзіцца на свежым паветры, не праводзьце ўвесь дзень у сценах свайго дома. Спрыяльны час для падарожжаў і паездак. Нельга глядзецца ў люстэрка. Не рэкамендуецца есці грыбы і мяса. Карыснае палавое ўстрыманне.

**Адзенне.** Аддайце перавагу размытым тонам, пазбягайце яркіх колераў, асабліва чырвонага і аранжавага.

**Прыметы**. У гэты дзень сачыце за аблокамі. Выйшаўшы з дому, паглядзіце на неба: форма воблака можа мець для вас сімвалічнае значэнне. Калі ветрам скідвае кнігі, зносіць паперу ці разбіваецца посуд, — да ўдачы. Вас праследуюць надакучлівыя пахі — знак трывогі, нечага дрэннага. Калі ў вас ветрам зрывае капялюш, хусцінку, шалік і г. д. — указанне на тое, што вы прайшлі міма свайго шчасця ці з вас знята ахова.

**Сны.** Убачыць некалькі сноў запар — знак спрыяльных перамен у жыцці. Бачыць агонь — да ўдачы і дапамогі. Купацца ў вадзе — да хваробы. Дождж — знак вылячэння і аховы.

**Медыцына.** Другая палова дня неспрыяльная для аперацый. Слабыя рукі, лёгкія і бронхі. Проціпаказаныя ўсе працэдуры, звязаныя з органамі дыхання. Добра лячыць печань, жоўцевы пузыр і крывятворную сістэму.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## Віншаванні

***Віншуюць з днём нараджэння і жадаюць моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, поспехаў у працы, вучобе, заўжды добрага настрою:***

***Наталлі ПЕТУХ**, студэнтцы з г. Полацка – бабуля і дзядуля з г. Паставы; любімаму татачку **Мікалаю Ігнатавічу КАСЬЯНЧЫКУ** з нагоды 50-годдзя – жонка, цешча, дзеці; дарагой і любімай нявестцы **Алёне Мікалаеўне МІХАЙЛОЎСКАЙ** з Жодзіна – свякроў Марыя; паважанай **Марыі Аляксееўне РАНГОЎСКАЙ** – Карзуны з г. Рагачова; любімаму татачку і дзядулю **Мікалаю Іванавічу ФРАЛОВУ** з г. п. Акцябрскі Гомельскай вобл. – дочкі, жонка, зяці, унукі; **Уладзіміру Уладзіміравічу ПАСЕКУ** – Ала, Іра, Саша з в. Подбалаць Валожынскага раёна; дарагому зяцю **Віталю Рыгоравічу КАЎБАСКІНУ** – цешча і цесць з г. Рагачова; **Наталлі Міхайлаўне ГАБРУСЕВІЧ** – Таццяна Сцяпанаўна з в. Рэпля Ваўкавыскага раёна.*

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.**
**Рэгістрацыйны нумар 1.**

**Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.**
**Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.118. Індэкс 63850. Зак. № 538.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12